# СВАБОДА

29 верасьня 1995 г.

№39

Кошт свабодны

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 93 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56
Тэл./факс 36-24-41


# Стары сцэнар для новага парламанту

Ёсьць падазрэньне, што Аляксандру Лукашэнку наагул не хацелася б ніякага парламанту. Безумоўна, такі варыянт псіхалагічна найбольш адпавядае характару беларускага прэзідэнта, аднак існуючыя рэаліі не дазваляюць увасобіць такі падыход у жыцьцё. Канечне, пад словам "рэаліі" трэба разумець не асаблівасьці беларускага ўнутрыпалітычнага жыцьця, а міжнародныя абставіны. Сутыкнуўшыся з даволі рэзкай адмоўнай рэакцыяй міжнароднай супольнасьці на факт зрыву выбараў, Лукашэнка вырашыў, што парламант усё ж такі давядзецца мець. "Калі гэтага не пазьбегнуць, варта зрабіць гэта карысным для сябе".

Некаторыя апошнія факты прымушаюць сьцьвярджаць, што Лукашэнка выяўляе жаданьне мець рознакаляровы неаднародны парламант. Па-першае, прэзідэнт пачаў уступаць амаль у адкрытую канфрантацыю з прадстаўнікамі вядучых на сёньня фракцыяў у будучым Вярхоўным Савеце — аграрнай і камуністычнай. Лагічным было б меркаваць, што мэтаю такіх дзеяньняў зьяўляецца жаданьне прэзідэнта не бачыць у новым Вярхоўным Савеце моцных і згуртаваных фракцыяў. Такому парламанту цяжка будзе аб'яднацца супраць выканаўчай улады, большасьць сваёй энэргіі дэпутаты мусяць аддаваць зацятай ідэалагічнай барацьбе паміж сабой. Калі б прэзідэнцкія аналітыкі мелі розум, недзеяздольны парламант, што складаецца з дробных груповак, быў бы іхнай вышэйшай марай.

Па-другое, на карысьць выбараў гавораць новыя адносіны выканаўчай улады да фінансавых праблемаў выбарчых камісій. На іхны рахунак паступілі ўжо грошы патэнцыйным кандыдатам у дэпутаты ў памеры 600 тыс. рублёў на кожнага. У прынцыпе цяпер Цэнтральная выбарчая камісія ня мае сур'ёзных фінансавых праблемаў, і гэта вельмі кантрастуе з паводзінамі выканаўчай улады ў траўні.

З гэтага пункту варта разглядзець і гісторыю з папраўкамі да закону аб выбарах. Пасьля таго, як 21 верасьня да 16-й гадзіны Вярхоўны Савет не атрымаў ад прэзідэнта афіцыйнага паведамленьня аб падпісаньні ці непадпісаньні прынятага закону, зьмены ў закон аб выбарах, паводле Канстытуцыі, уступілі ў сілу. Гэта адназначна пацьвердзіў у сваім інтэрвію Інтэрфаксу Мечыслаў Грыб і накіраваўся на тыдзень у Страсбург. Аднак, здаецца, уся палітычна актыўная беларуская грамадзкасьць так і не змагла паверыць у тое, што на выбарах 29 лістапада дастаткова будзе 25%-й яўкі выбаршчыкаў. У Беларусі добра вядомая беспрэцэдэнтная здольнасьць Лукашэнкі прымаць самыя важныя дакуманты заднім чыслом. Тым больш што прэзідэнт неаднаразова заяўляў пра сваю нязгоду з прынятымі папраўкамі.

Сітуацыю мог бы патлумачыць старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандар Абрамовіч, але ён абачліва адмаўляецца даваць якія-небудзь камэнтары. Хоць, па сутнасьці, ніякіх камэнтараў і ня трэба — у Канстытуцыі ўсё дакладна вызначана, закон 21 верасьня ўступіў у сілу.

У сераду 27 верасьня стала вядома, што Лукашэнка вярнуў такі прынятыя папраўкі. Усё гэта выглядае як добра сплянаваны спэктакаль. Ня можа ня ўзьнікнуць падазрэньня, што прэзідэнт наўмысна не вярнуў своечасова прынятыя папраўкі, каб у будучым мець магчымасьць у максімальнай ступені абвінавачваць новы Вярхоўны Савет у прававой непаўнавартасьці (нелегітымнасьці).

Сапраўды, паводле новага заканадаўства, парламант будзе абавязкова абраны і ў яго нават увойдзе пэўная колькасьць дэмакратаў. Але, напрыклад, Сяргей Навумчык выказаў меркаваньне, што дэпутаты, абраныя ў траўні па "50-працэнтным законе", не пажадаюць прызнаваць дэпутацкія паўнамоцтвы тых, хто пройдзе па "25-працэнтным". У прыватнасьці, аб непрыняцьці новых паправак ужо неаднаразова заяўлялі лідары камуністаў. З іншага боку, сам прэзідэнт будзе ўвесь час адстойваць нелегітымнасьць прынятых паправак, заяўляючы, што ён закон не падпісаў, а значыць — закон ня мае права ўступіць у сілу. Такім чынам, пад сумненьне будуць пастаўленыя любыя вынікі выбараў 29 лістапада.

Ужо цяпер зразумела, што будучы беларускі парламант, дзякуючы мэтанакіраваным дзеяньням выканаўчай улады, будзе мець вельмі непрывабную спадчыну: прэзідэнт ужо пачынае ствараць будучаму Вярхоўнаму Савету імідж чарговага "ворага народа", правакуючы яго на канфрантацыю; правамоцнасьць новага закону аб выбарах будзе аспрэчвацца; легітымнасьць абраных 29 лістапада дэпутатаў адразу ж будзе пастаўленая пад сумнеў. Парламант будзе слабы, баязьлівы, заідэалагізаваны і, у выніку, недзеяздольны. Блакітная мара любога дыктатара...

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**



## Захаранка даў адлуп Ціцянкову
стар. 2

## Погляд з Захаду на сітуацыю ў Беларусі
стар. 6

## Будзе папера — будзем рэзаць

**Выступаючы 25 верасьня ў Нью-Ёрку на сэсіі Генэральнай Асамблеі ААН, міністар замежных справаў Уладзімер Сянько заявіў, што Беларусь аднаўляе выкананьне сваіх абавязацельстваў па Дамове аб звычайных узброеных сілах у Эўропе (ЗУСЭ).**

Такім чынам, пасьля 7-месячнага роздуму прэзідэнт Лукашэнка нарэшце зьняў сваю забарону і пагадзіўся працягваць зьнішчэньне танкаў ды іншай баявой тэхнікі да тых узроўняў, якія прадугледжае Дамова аб ЗУСЭ. Адзначым, што нават пасьля яе канчатковага выкананьня Беларусь усё адно будзе мець больш звычайнай зброі, чым такія краіны, як Польшча, Францыя, Вялікабрытанія.

Зьвязаўшыся 27 верасьня з кіраўніцтвам Барысаўскага танкарамонтнага завода, мы высьветлілі, што рэзаць зброю там пакуль не пачынаюць — чакаюць пісьмовага распараджэньня са сталіцы. Вусным загадам у Барысаве ўжо не давяраюць. **Алесь ДАШЧЫНСКІ**



## Лукашэнка сумняваецца

**27 верасьня прэзідэнт Аляксандар Лукашэнка вярнуў у Вярхоўны Савет пакет законаў, прынятых на цяперашняй сэсіі парламанту.**

Сярод іх і Закон "Аб унясеньні зьмяненьняў і дапаўненьняў у Закон "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета", які зьніжае парог яўкі выбаршчыкаў да 25%. У суправаджальным лісьце Лукашэнка выказаў сумненьні ў легітымнасьці Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Тым ня менш, старшыня парламанцкай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве Ўладзімер Леўчык даручыў сакратарыяту Вярхоўнага Савету рыхтаваць прынятыя законы да афіцыйнай публікацыі. На думку сп.Леўчыка, усе прынятыя парламантам законы павінны ўступіць у сілу, паколькі прэзідэнт ня выкарыстаў абумоўлены Канстытуцыяй дзесяцідзённы тэрмін і вярнуў законы значна пазьней. Аднак некаторыя назіральнікі не выключаюць, што ў хуткім часе можа зьявіцца прэзідэнцкі ўказ аб спыненьні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня і ўвядзеньня ў краіне элемэнтаў надзвычайнага становішча.

*Павет*

# Тэатральны "наезд"

**Зьбірацца ў групы больш за тры чалавекі каля прэзідэнцкай рэзідэнцыі небясьпечна!**

Гэтую ісьціну адчулі на сабе акторы Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, калі сабраліся на першы пасьля летняга адпачынку сход. Звычайна на такім сходзе ідзе вольная гутарка пра тое, як працаваць у наступным сэзоне, хто на якую ролю будзе прызначаны... Карацей кажучы, тусоўка дзеля тусоўкі. А пачынаюць "тачыць лясы" яшчэ каля службовага ўваходу ў тэатар, дзе на лаўцы прызвычаіліся адпачываць курыльшчыкі. Надвор'е ў той дзень было добрае, і таму каля лаўкі сабралася чалавек дваццаць актораў — і знакамітых, і пачынаючых. Кожную хвіліну да іх падыходзілі новыя знакамітасьці, што выклікала ў стракатым натоўпе буру эмоцыяў. Відаць, з боку сапраўды магло падаць, што каля тэатра нешта насьпявае.

У хуткім часе каля тэатра спыніліся дзьве вайсковыя машыны. У вялікай, з крытым кузавам сядзелі пахмурыя амонаўцы, з вокнаў УАЗіка глядзелі афіцэры міліцыі, адзін з якіх высьлізнуў на брук і пачаў асьцярожнымі скокамі набліжацца да кампаніі актораў. "Разыходзьцеся! Чаго сабраліся? Ваш мітынг несанкцыяваны, прэзідэнт вас не прыме!" — пачуўся добра пастаўлены голас, якому могуць пазайздросьціць нават лепшыя "дыхалкі" у тэатры...

Адзінае, пра што шкадавалі потым акторы, настрой якіх быў падняты гэтым "наездам" на ўвесь тыдзень, — што не ўзяліся пляскаць у ладкі, калі АМОН, разабраўшыся, адступіў. Была б авацыя, якой купалаўцы яшчэ ня чулі!

Дарэчы, 1 кастрычніка тэатар імя Янкі Купалы распачынае новы сэзон, з чым мы іх і віншуем. А амонаўцаў і тых, хто сочыць за парадкам вакол прэзідэнцкага палаца, папярэджваем: на "Паўлінку" заўсёды зьбіраецца шмат гледачоў — ня трэба іх прымаць за несанкцыяваны мітынг ці групу хадакоў да гаспадара палаца.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

## Пазьняк выбірае

**Ці будзе балатавацца на восеньскіх выбарах у парламант лідар Народнага Фронту Зянон Пазьняк?**

Як паведамілі ў штаб-кватэры БНФ, ініцыятыўныя групы па вылучэньні З.Пазьняка кандыдатам у дэпутаты зарэгістраваныя ажно ў чатырох акругах: у Менску, Лідзе, Смаргоні і Пінску. Смаргоньская каманда, да прыкладу, налічвае 86 чалавек.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

**Вы любіце СВАБОДУ, маеце вольны час і хочаце крыху зарабіць!**

**Наша газэта можа заключыць з Вамі дамову на распаўсюджваньне СВАБОДЫ.**

*Тэлефануйце (толькі па пытаньнях распаўсюджваньня):*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Менск | 36-24-41 | Магілёў | 22-63-19 |
| Берасьце | 26-47-13 | Вoрша | 4-28-57 |
| Гродня | 45-41-83 | | |



# В.Ціхіня паміж шпіталем і Гісторыяй

**5 кастрычніка Канстытуцыйны суд пачне разгляд першага з шасьці ўказаў прэзідэнта, якія прынятыя да судаводзтва.**

Сёньня пры фактычнай адсутнасьці дзеяздольнага парламанту і яшчэ ня створанай грамадзкай супольнасьці Канстытуцыйны суд у нашай краіне зьяўляецца ці не адзіным дзяржаўным інстытутам, які здольны супрацьстаяць наступу ваяўнічага беззаконьня. Зразумела, што выканаўчая ўлада, якая любое пярэчаньне сваёй волі пачынае ўспрымаць як анамальную зьяву, не жадае мірыцца з існаваньнем нейкай законнай процівагі "сабе, любімай". Дакладней, з "існаваньнем", можа, і мірылася б, а вось з "дзейнасьцю" — ужо не.

Выканаўчая ўлада спалучала розныя формы "уплыву" на Канстытуцыйны суд, аддаючы пры гэтым перавагу самым прымітыўным мэтадам. Агульнавядомы, напрыклад, той факт, як старшыня КС пасьля наведваньня прэзідэнцкай адміністрацыі апынуўся ў шпіталі ў перадінфарктным стане. Пасьля з дапамогай СВАБОДЫ стала вядома, што дэпутат А.Лукашэнка на працягу двух гадоў прысвойваў сабе "голас" В.Ціхіні, заяўляючы, нібыта ён (Лукашэнка) быў адзіным дэпутатам, які галасаваў супраць ратыфікацыі Белавежскіх пагадненьняў. Але тут выявілася, што якраз дэпутат Ціхіня быў тым адзіным, хто націснуў кнопку "супраць". Старшыня Канстытуцыйнага суда пацьвердзіў гэта "Белорусской деловой газете". Тым часам 5 верасьня з Ціхінем здарылася зусім непрыемная сітуацыя: ягоны "Мэрсэдэс" вымушаны быў рэзка павярнуць улева і нават урэзацца ў іншую машыну, каб пазьбегнуць сутыкненьня з аўтамабілем, які імчаўся з вялікай хуткасьцю на машыну старшыні КС. Некаторыя людзі ў атачэньні старшыні Канстытуцыйнага суда ўпэўненыя, што гэта быў замах.

Зрэшты, формы псіхалагічнай вайны могуць вар'іравацца ў залежнасьці ад настрою замоўцы. У верасьні, калі Суд прыняў да разгляду шэраг указаў прэзідэнта, пачалі зьяўляцца артыкулы, у якіх сьцьвярджалася, нібы Канстытуцыйны суд заняўся палітыкай. Ціхіня рашуча абверг гэтыя заявы і расцаніў такія "заказныя" артыкулы як сродак ціску на КС. Сваімі паводзінамі Валерый Гур'евіч толькі падмацаваў уласную рэпутацыю прынцыповага чалавека, які гатовы адстойваць свае меркаваньні. Да таго ж у яго ёсьць вышэйшая матывацыя — увайсьці ў гісторыю чалавекам, які спыніў беззаконьне на Беларусі.

5 кастрычніка Канстытуцыйны суд будзе разглядаць амаль невядомы шырокім народным масам указ прэзідэнта №276 "Аб удакладненьні бюджэта Рэспублікі Беларусь на 1995 г. і часовых захадах па скарачэньні бюджэтных расходаў", прыняты яшчэ 12 ліпеня. Дарэчы, гэты ўказ ня быў апублікаваны (што таксама зьяўляецца парушэньнем закона), і СВАБОДА стала фактычна адзінай газэтай, якая падрабязна паведаміла пра яго зьмест. Гэтым дакумантам прэзідэнт прыняў даходную і расходную часткі бюджэту, а таксама адмяніў некаторыя нормы існуючых законаў.

Як паведамілі нам у Канстытуцыйным судзе, экспэртам па гэтай справе будзе выступаць начальнік юрыдычнага аддзелу Нацыянальнага банка Валянцін Шуклін, а спэцыялістам — намесьнік старшыні Саюзу прадпрымальнікаў Сямён Дрэйзеншток. Як сказаў СВАБОДЗЕ намесьнік старшыні КС Валерый Фадзееў, Канстытуцыйны суд пачне разглядаць ня толькі адпаведнасьць Канстытуцыі гэтага асобнага ўказу, але і правамоцнасьць самога прынцыпу — ці мае права прэзідэнт сваімі ўказамі зьмяняць заканадаўства. У рашэньні суда, запэўніў Фадзееў, будзе дадзены максімальна канкрэтны адказ па гэтай праблеме.

Валерый Фадзееў не пагадзіўся з тым, што вакол дзейнасьці суда ствараецца атмасфэра напружанасьці і канфрантацыі. "Я асабіста не адчуў якога-небудзь ціску з боку выканаўчых структураў. Больш за тое, на маю думку, апошнім часам зьявілася нейкае ўзаемапаразуменьне", — сьцьвярджае намесьнік старшыні Канстытуцыйнага суда, спасылаючыся на ўказаньні прэзідэнта сацыёлагам вывучыць грамадзкую думку ў справе скасаваньня льготаў. Фадзееў таксама падкрэсьліў, што апошнім часам Канстытуцыйны суд мае "нармальнае фінансавае забесьпячэньне".

Заўсёды хочацца верыць у лепшае. Хочацца верыць, што даўно адпрацаваны і пасьпяховы ў нашых спэцыфічных умовах мэтад бізуна цяперашняя ўлада пачала спалучаць з ня менш эфэктыўным мэтадам саладкага перніка. Усё ж гэта больш "цывілізавана".

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Захаранка даў адлуп Ціцянкову

## Адразу пасьля разгону забастоўкі на мэтро Унутраныя войскі чакала новая справа

**Гэтыя дакуманты (гл. копіі) яскрава пацьвярджаюць той факт, што нашыя шматлікія Унутраныя войскі зусім не дарэмна ядуць народны хлеб: ім заўсёды даводзіцца выконваць важныя дзяржаўныя задачы.**

КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
220016, г. Мінск, вул. К. Маркса, 38

УПРАВЛЕНИЕ ДЕЛАМИ ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
220016, г. Минск, ул. К. Маркса, 38

21.08.95 № 15-810

Командующему Внутренними войсками Республики Беларусь генерал-майору Оголыцу В.С.

Уважаемый Валентин Степанович!

В связи с достигнутой между нами ранее договоренностью прошу оказать содействие в проведении работ по благоустройству территорий комплексов "Дрозды", "Крылово" и "Заславль".

С этой целью представляется оптимальным выделение в течение месяца 60 человек.

С уважением

И.И.Титенков

Управляющий делами Президента Республики Беларусь

[illegible]

24 августа 1995. 23.08.95

Рэспубліка Беларусь
МІНІСТЭРСТВА УНУТРАНЫХ СПРАЎ
МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ

тов. Агольцу В.С.

«28» августа 1995г. № [illegible]
220615, г. Мінск, Гарадскі вал, 4
На № ______ от ______ 199 г.

Подобное обещание выглядит весьма странно. Родители нам отдали своих детей служить, а не батрачить. Прошу ещё раз ознакомиться с приказом МВД К-112 от 19.07.95г, который является для вас обязательным.

Учитывая сложную оперативную обстановку необходимо использовать этих "лишних" военнослужащих по назначению и обеспечить несения службы на участках дорожной милиции вокруг г. Минска с 30.08.95г. до особого распоряжения. Примите меры к увеличению плотности нарядов для ООП.

тов. Кречко Н.В.
Химко Н.П.
Начальникам УВД

Докладывать ежедекадно о количества личного состава ВВ привлекаемых для патрулирования, результаты их работы, состояния правопорядка на закреплённых участках.

тов. Харитонову М.А.

Ознакомить заместителей министра.

Министр Ю. Захаренко

Памятаеце, як хутка і ўдала запусьцілі яны сталічны мэтрапалітэн, арыштаваўшы два дзесяткі машыністаў-забастоўшчыкаў разам з прафсаюзнымі лідарамі. Апэрацыю правялі як мае быць, нават дэпутата Антончыка ціхенька інтэрнавалі амаль на трое сутак.

Але як толькі мэтро запрацавала, салдатам Унутраных войскаў знайшлася новая, ня менш важная справа. 21 жніўня (акурат у той самы дзень, як выпусьцілі з-пад варты Антончыка) кіраўнік справамі прэзідэнта Іван Ціцянкоў піша генэралу Агальцу, каб той выдзеліў на месяц 60 вайскоўцаў дзеля выкананьня дзяржаўных задачаў на аб'ектах ягонага ведамства. Дасьведчаныя людзі напэўна памятаюць гэтыя назвы: "Дразды", "Крылава", "Заслаўе". Гэтыя загарадныя рэзідэнцыі заўсёды (яшчэ ад часоў Машэрава) былі камфортным месцам адпачынку высокага начальства. Толькі Станіслаў Шушкевіч быў адзіным кіраўніком, які — у часы свайго сьпікерства — адмовіўся ад прапановы заняць рэзідэнцыю ў Драздах. Кажуць, ён быў хітрэйшы: скраў вядро цьвікоў ды такім чынам дабудаваў сваю ўласную дачу.

Тым часам прэзідэнт Лукашэнка, як сьцьвярджаюць, нічога не крадзе і свайго ўласнага нічога ня мае, а жыве на ўсім дзяржаўным. А каб яму не было сумна ў гэтых рэзідэнцыях, то туды прыяжджаюць адпачываць розныя іншыя высокія пэрсоны. Хто быў там, расказваюць, што цяпер там шмат працы: будуюць тэнісныя корты, басэйн ды многа іншага. Больш падрабязна пра гэта мог бы расказаць Іван Ціцянкоў, ды не расказвае... А падглядваць праз плот — небясьпечна (ахова можа застрэліць). Гэта ж вам не 1990 год, калі дэпутаты Антончык з Герасюком, "згвалціўшы" Вярхоўны Савет, утварылі славутую камісію па прывілеях і пачалі аб'яжджаць з інспэкцыямі гэтыя рэзідэнцыі. Але і ў тыя часы іх туды так проста не прапускалі. Аднак яны лазілі цераз плот, а потым красамоўна распавядалі пра гэта ў газэтах. Цяпер жа Антончыка (альбо дэпутата-камуніста Новікава ці каго іншага) могуць падпусьціць туды хіба што на адлегласьць пісталетнага стрэлу.

Дарэчы, Іван Ціцянкоў вельмі слушна робіць, што прыцягвае ў якасьці працоўнай сілы на гэтых аб'ектах менавіта Унутраныя войскі. Там служаць людзі правераныя, і ёсьць гарантыя, што на гэтай стратэгічнай тэрыторыі ня зьявяцца цэрэушныя мікрафоны. Інакш, калі выкарыстоўваць вольнанаёмных, можна не сумнявацца, што кожны другі будзе агентам ЦРУ, Масада або польскім шпіёнам. Аднак міністар унутраных справаў Ю.Захаранка, не зразумеўшы ўсёй важнасьці справы, даў адлуп: *"Родители нам отдали своих детей служить, а не батрачить"*. І адправіў іх служыць на пасты ДАІ, дзе яны, настаўляючы аўтамат на перапалоханага дачніка-аўтамабіліста, змагаюцца са злачыннасьцю.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**




**На здымку: Камандуючы Унутранымі войскамі генэрал Валянцін Агалец (зьлева) з шэфам сваёй прэс-службы палкоўнікам Сяргеем Пастаноўкіным расказваюць на прэс-канфэрэнцыі пра подзьвігі спэцназаўскіх палкоў. Аднак пасьля арыштаў забастоўшчыкаў з генэралам нешта здарылася — ён чамусьці ня хоча сустракацца з журналістамі.**

# Заводзкі раён — самы беларускамоўны ў сталіцы

Да гэтай высновы можна прыйсьці, калі пазнаёміцца з інфармацыяй аб колькасьці пададзеных заяваў у 1—4 класы з беларускай і расейскай моваю навучаньня.

Па розных раёнах сталіцы гэтыя зьвесткі выглядаюць наступным чынам. Усяго ў Менску прынята 25756 першакласьнікаў, з якіх на беларускую мову навучаньня — толькі 5524, што складае ўсяго 27%. У Заводзкім раёне адпаведна 1233 з 4355, што складае 28%, у Ленінскім 491 з 2363 (20%), у Кастрычніцкім 477 з 2082 (23%), у Маскоўскім 1029 з 3891 (26%), у Партызанскім 470 з 1515 (31%), Першамайскім 605 з 3226 (18%), Савецкім 244 з 2279 (10%), Фрунзэнскім 733 з 5125 (14%), і ў Цэнтральным 242 з 920, што складае 26%.

Такім чынам, самымі ўпартымі аказаліся беларусы, што жывуць у Заводзкім ды Маскоўскім раёнах. Па колькасных паказчыках. Па працэнтнай долі на першае месца выйшаў Партызанскі раён, але наўрад ці гэтае першынство можа парадаваць жыхароў раёна — сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны, бо толькі 470 малых пачалі сваё навучаньне на беларускай мове. Для параўнаньня: у 4-х класах па-беларуску ў гэтым раёне вучацца 772 вучні — амаль удвая больш.

Дарэчы, дадзеныя аб колькасьці вучняў у 4-ых беларускамоўных класах і параўнаньне гэтых дадзеных з леташнімі "рэкордамі" дазваляюць ўбачыць сітуацыю, так бы мовіць, у разьвіцьці. Яна даволі сумная. Нагадаю, што сёлетнія 4-класьнікі — гэта якраз тыя, хто пайшоў у школу надосьвітку нашай незалежнасьці. Памятаеце, якія надзеі панавалі ў грамадстве ў той момант, асабліва сярод інтэлігенцыі? А якім расчараваньнем гэтыя надзеі абярнуліся сёньня! У Савецкім раёне ажно 1038 вучняў займаецца ў чацьвёртых беларускамоўных класах і толькі 244 прыйшло ў першы клас. 2016 чатырохкласьнікаў у Фрунзэнскім раёне і толькі 733 першакласьнікі! — 14% — самы нізкі паказчык!

А вось Заводзкі раён узровень беларускасьці амаль утрымаў: 1820 чатырохкласьнікаў і 1233 першакласьнікі. Відаць, жыхары тут такія, якія не вельмі шарахаюцца з аднаго боку ў другі. Прыкладна такую ж вернасьць матчынай мове дэманструюць бацькі ў Маскоўскім раёне (1854 — 1020), а ў Ленінскім назіраецца нават невялікі рост прыхільнікаў беларускай мовы ў параўнаньні з 1992 годам: 410 чатырохкласьнікаў і 491 першакласьнік. Хаця, з іншага боку, — гэта толькі 20% ад усіх маленькіх жыхароў раёну, што прыйшлі ў школы.

Калі з нейкай палітычнай пазіцыі паглядзець на гэтыя лічбы, то можна заўважыць, што больш ў нацыянальна-патрыятычныя колеры афарбаваныя Заводзкі, Партызанскі, Маскоўскі раёны. Менш — Савецкі, Фрунзэнскі, Першамайскі. З вынікамі мінулых выбараў гэта супадае не цалкам, што якраз і цікава.

Але, як кажуць, ці відаць за гэтымі сухімі лічбамі сапраўднае жыцьцё? Для кагосьці, можа, 20% беларускамоўных сярод малодшых школьнікаў — добры паказчык. Але ці ведае ён, што і гэтая пятая частка трымаецца ледзь-ледзь? Нам у рэдакцыю тэлефанавалі, напрыклад, бацькі вучняў 4 "Д" класа 19-й школы г. Менска, дзе усяго 6 вучняў. Яны ўпартыя, яны хочуць вучыцца на сваёй роднай мове, а ім адказваюць, што хутка могуць пазбавіць фінансаваньня і зачыніць клас. Зьвяртаемся да аднаго з кіраўнікоў Савецкага рана спадара Варыводы: паважаны Уладзімер Пятровіч, зрабіце ўсё ад Вас залежнае, каб беларускі 4 "Д" жыў, бо толькі тады будзе жыць Беларусь. Бацькі памятаюць Вашыя абяцаньні ім дапамагагаць і чакаюць гэтай дапамогі.

Падобных сігналаў у рэдакцыю прыходзіць нямала. Мы і надалей будзем па меры магчымасьцяў дапамагаць тым, хто клапоціцца пра беларускія класы.

Рэч не ў статыстыцы, якая хоць і ня радасная, але і не такая, пасьля якой апускаюцца рукі. Працаваць далей можна і трэба!

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

## У прафсаюзных акопах ціша

**"Прафсаюзам адседзецца ў акопах ня ўдасца", — адзначыў падчас свайго выступу на справаздачнай абласной канфэрэнцыі ў Горадні намесьнік старшыні фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі Франц Вітко. На ягоную думку, трэба выбіраць — з народам яны ці не.**

Самай вялікай бядой у цяперашнім стане спраў сп. Вітко лічыць адсутнасьць нармальнай тэхналогіі ўлады. Ва ўсім абвінавачваюцца кіраўнікі прадпрыемстваў, аднак нічога ня робіцца для стварэньня спрыяльных умоваў для вытворцаў, — заявіў Вітко. Гэта, бадай, быў адзіны выступ, які трохі ажывіў публіку.

У цэлым жа канфэрэнцыя прайшла ў лепшых традыцыях мінулых гадоў. Дэлегаты, якіх сабралася 120 чалавек, скардзіліся на тое, што цяжка стала жыць, несвоечасова плоцяць заробкі, скарачаюцца рабочыя месцы, парушаюцца законы і г.д. Тым часам старшыня абласных прафсаюзаў Васіль Кобрын не забываў нагадваць выступоўцам, што Лукашэнка лічыць афіцыйныя прафсаюзы сваёй натуральнай апорай. Урэшце, моўчкі праслухаўшы ўсе выступы, дэлегаты паслухмяна, безальтэрнатыўна і амаль аднагалосна зноў абралі сваім кіраўніком В.Кобрына.

**М.МІКАЛАЙЧЫК**

## Гаротны Наваградак

**Старажытны Наваградак справіў юбілей: споўнілася 950 гадоў ад першай летапіснай згадкі аб горадзе.**

З нагоды юбілею горад прыхарашыўся, тое-сёе падправілі, падфарбавалі. Аднак усё ж цяжка было схаваць ад гасьцей, якія зьехаліся сюды 24 верасьня, гаротны стан старажытных забудоваў, помнікаў архітэктуры, культурных каштоўнасьцяў. Ужо колькі гадоў стаіць у рыштаваньнях Дамініканскі касьцёл, і канца рэстаўрацыйных работаў ня бачна. Абвальваецца цэгла з руінаў былога замку — помніка абарончага дойлідства 13-16 стст. Апошнюю рэстаўрацыю тут праводзіліся яшчэ за польскім часам. А зараз мясцовыя ўлады былі вымушаныя павесіць шыльдачкі, якія папярэджваюць, што блізка падыходзіць да вежаў небясьпечна.

Праўда, цяпер на замчышчы працуе сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства "Рэмаватум", яго мэта — умацаваць тое, што яшчэ захавалася. Супрацьаварыйныя работы толькі пачаліся, а выдзеленыя з рэспубліканскага бюджэту 50 млн. рублёў ужо патрачаныя. Між тым з пераліку помнікаў, якія атрымаюць грошы на рэстаўрацыю ў наступным годзе, Наваградзкі замак міністэрскія чыноўнікі выкрэсьлілі. Цяпер спадзяваньні — толькі на Польшчу, якая паабяцала фінансавую падтрымку.

**С.С**

## Бабруйскія гонкі

**На мінулым тыдні з вайсковай часткі ў Бабруйску ўгналі аўтамабіль "КАМАЗ".**

Міліцыянты, спрабуючы затрымаць злодзеяў, некалькі разоў стралялі па машыне. Толькі калі адзін з угоншчыкаў быў паранены, машына спынілася. Высьветлілася, што грузавік скралі вучні 8 і 9 класаў бабруйскіх школаў, якія планавалі прадаць "КАМАЗ" у Расеі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Міліцыя ўзяла касу

**У Быхаве затрымалі двух мясцовых "аўтарытэтаў", якія зьяўляліся трымальнікамі "общака" (касы ўзаемадапамогі крымінальнікаў).**

Затрыманым няма яшчэ і 30-ці гадоў, але кожны з іх ужо мае па чатыры судзімасьці.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Народ узбройваецца

**У Магілёве за незаконнае захаваньне і продаж зброі затрыманы жыхар гэтага горада.**

Міліцыянты сканфіскавалі 2 пісталеты Walter, пісталет "ТТ", карабін сістэмы Mauser і шмат боезапасаў да іх. Злавілі зламысьніка, калі той спрабаваў прадаць пісталет "ТТ".

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Народ узбройваецца

**Віцебская міліцыя ўжо цэлы тыдзень шукае касірку Чыгуначнага аддзяленьня Ашчаднага банку.**

20 верасьня яна зьнікла з працы ў невядомым кірунку, а разам з ёю — і кругленькая сума на 20 млн. рублёў (у тым ліку 1 тыс. даляраў, 500 тыс. расейскіх рублёў).

**Барыс ХОЛАД**

## Засталіся толькі краўцы

**У Магілёўскім раёне з 32-х пунктаў бытавога абслугоўваньня цяпер працуе толькі 9.**

Тут можна атрымаць адзіную паслугу — пашыць верхняе адзеньне, бо ўсё астатняе стала стратным для прадпрыемстваў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## *Удакладненьне*

26 траўня ў газэце СВАБОДА №21 быў надрукаваны артыкул "У Сьветлагорску заварушыліся. Справу давядзецца працягнуць".

Апрача іншых фактаў, у матар'яле паведамлялася: *"Летась Сьветлагорскае аб'яднаньне "Хімвалакно" перапрадала італьянскай фірме 20 тысяч даляраў за станок. Да гэтага часу — ні станка, ні грошай. Хаця ў кантракце (яго падпісаў ад "Хімвалакна" шэф зьнешнеэканамічных сувязяў Надзеждзін) тэрмін пастаўкі абумоўлены адным месяцам. На чым валютным рахунку аселі грошы, высьветліць, бадай што, немагчыма".*

Мусім паведаміць, што на момант публікацыі артыкула станок ужо быў дастаўлены на "Хімвалакно". Прыносім прабачэньне за недакладную інфармацыю.

## Улада ведае, што робіць?

**Сёньняшнія ўлады, мабыць, па-ранейшаму лічаць, што прыватная ўласнасьць — гэта перажытак капіталізму. Інакш нельга вытлумачыць інцыдэнт, які нядаўна здарыўся ў Фрунзэнскім раёне Менска.**

За адзін дзень тут зьнікла каля 50 аўтамабіляў, што былі прыпаркаваныя ў дварах па вул.Берута. Уладальнікі ўзьнялі трывогу ды кінуліся па дапамогу ў міліцыю. Аднак аўтазлодзеі тут ні пры чым. Як высьветлілася, аўтамабілі знаходзяцца на штрафной стаянцы, куды іх адбуксавалі камунальныя службы. Менавіта такім чынам Фрунзэнскі райвыканкам без усялякага папярэджаньня вырашыў ачысьціць дваровыя пляцоўкі "ад лішніх прадметаў". Людзі паспрабавалі даведацца ў выканкаме, на якой падставе арыштавалі іхныя машыны і за якія парушэньні яны павінны плаціць грошы. Чыноўнікі, як заўсёды, спасаліся на нейкае "рашэньне выканкаму", якое, аднак, паказаць адмовіліся. А адзін з кіруючых "вэртыкальшчыкаў" увогуле злосна заявіў, што "улада ведае, што робіць, і не абавязаная кожнаму даваць справаздачу". Вось так і жывем.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**



## Магілёўскія кантралёры вырашылі жыльлёвую праблему

**Пакуль тысячы простых бяздомных ламаюць галовы над тым, якім чынам сёньня вырашыць сваю жыльлёвую праблему, прэзідэнцкія кантралёры лёгка і бестурботна засяляюцца ў новыя кватэры.**

Напрыклад, усяго за нейкі год работнікі Магілёўскай управы службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта атрымалі 10 кватэраў. Акрамя таго, гэтая служба пералічвае на свой банкаўскі рахунак 10 працэнтаў ад сумы штрафаў, якія выплачваюць парушальнікі. Толькі з магілёўскага аўтазавода кантралёры спагналі 3 млрд. рублёў. Чаму б ня жыць?

**Іван ЗАСІМОВІЧ**

## Крычаўскую звалку залілі півам

**Нядаўна на звалку ў Крычаве вывезлі 10 000 літраў (30 000 бляшанак) аўстрыйскага піва Zipfer.**

Год таму гэты груз затрымалі на Крычаўскай мытні з прычыны няправільна афармленых дакумантаў. Піва прастаяла на базе, але так і не было рэалізаванае праз гандаль. У рэшце сапсаваны тавар давялося вывезьці на звалку і прайсьціся па ім бульдозэрамі.

Мясцовыя бамжы па працягу некалькіх дзён займаліся "раскопамі" уцалелых банак.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Няма грошай на ваду

**У хуткім часе жыхары каля 20-ці вёсак Полацкага раёну могуць зусім застацца без вады.**

Рэч у тым, што некалькі гадоў таму непадалёку Наваполацка быў пабудаваны водазабор Акунёва. З таго часу жыхары горада замест рачной вады п'юць чыстую артэзіянскую. Другім этапам будаўніцтва водазабору прадугледжвалася водазабесьпячэньне навакольных вёсак, якія апынуліся ў мяжы артэзіянскіх крыніцаў, бо вада з сельскіх калодзежаў пачала зьнікаць. Наваполацкі Будтрэст №16 пасьпеў правесьці ваду толькі да сямі населеных пунктаў. На гэтым будаўніцтва спынілася — бо спынілася фінансаваньне праекту. Сяляне напісалі шмат лістоў у розныя дзяржаўныя ўстановы, у тым ліку прэзідэнту і прэм'ер-міністру. Але грошай на ваду ў дзяржавы так і не знайшлося.

**Тамаш ГУРБА**

## У Івацэвічах — новая газэта

**У верасьні ў Івацэвічах пабачылі сьвет першыя нумары "Газеты Уладзіміра Кудзінава", заснавальнікам якой стала гандлёва-прамысловая фірма "Івацэвічы".**

Кіруе фірмай сп.Кудзінаў, у яго гонар і назвалі новую газэту. Па словах сп.Кудзінава, новае выданьне (а ягоны штат сфармаваны з былых супрацоўнікаў "Івацэвіцкага весніка") дазволіць рэалізаваць канстытуцыйнае права на свабоду слова і даць жыхарам аб'ектыўную інфармацыю пра падзеі ў раёне.

**СІМ**

# Хоча, але ня можа

**Сваім пажарным ваяжам у Расею беларускі прэзідэнт у чарговы раз зьдзівіў ды нават пацешыў шаноўную публіку і замацаваў за сабой у сур'ёзных расейскіх колах рэпутацыю малапрадказальнага і несамавітага палітыка.**

Парушаючы дыпламатычны пратакол і свой папярэдні графік, Лукашэнка зьявіўся ў расейскай сталіцы нібы сьнег у ліпені. Пра ягоны ад'езд у Маскву ня ведалі нават у беларускім Міністэрстве замежных справаў, тым больш што за некалькі дзён да гэтага міністар Уладзімер Сянько заявіў на сустрэчы са сваім расейскім калегам Козыравым, што абодвум бакам трэба грунтоўна рыхтавацца да паўнацэннага міждзяржаўнага візіту. "Паўнацэннага" не атрымалася. Прэзідэнт праігнараваў падрыхтоўчую дзейнасьць свайго зьнешнепалітычнага ведамства, як, зрэшты, ігнаруе апошнім часам шматлікія іншыя распрацоўкі міністэрства замежных справаў на чале з яго міністрам.

Нягледзячы на ўсе запэўніваньні тыпу "нічога такога не было", якіх багата выдалі на гэтым тыдні і Замяталін, і сам Лукашэнка, відавочна, што наш прэзідэнт кінуўся ў Расею, кажучы проста, гандляваць Беларусяй. Яшчэ два тыдні таму Лукашэнка заявіў у інтэрвію тэлерадыёкампаніі "Мір", што даслаў кіраўніцтву Расеі ліст з прапановамі аб "паглыбленьні" беларуска-расейскіх адносінаў.

У пачатку гэтага тыдня з Масквы прыйшоў адказ, які Лукашэнка ўспрыняў як станоўчы. Натхнёны такім паваротам справы, Рыгоравіч паімчаў у Маскву, маючы ў папцы праект нейкай канфэдэратыўнай дамовы. Але ў Расеі яго чакала неспадзяваная асечка — Ельцын адмахнуўся ад надакучлівага "маладога палітыка", не выказваючы вялікага жаданьня траціць на ягоныя пражэкты свой адпачынак. Лукашэнку давялося сустракацца з расейскімі сілавымі міністрамі, разбураючы ўсялякія паняцьці аб годнасьці кіраўніка дзяржавы.

Нарэшце прэзідэнт Расеі згадзіўся пагаварыць са сваім "малодшым братам". Пачуўшы Лукашэнкавы прапановы, Ельцын нібыта сказаў: "Без Украіны нельга. Едзь у Кіеў, дамаўляйся з Кучмам". Паслалі — паехаў.

У Кіеве, аднак, Лукашэнку не чакалі — у аэрапорце прэзідэнта дзяржавы сустракалі супрацоўнікі адміністрацыі Кучмы, што красамоўна сьведчыла пра адносіны ўкраінскіх уладаў да неўтаймоўнай інтэграцыйнай энэргіі кіраўніка Беларусі. Украінская карэспандэнтка "Астанкіна" досыць пазьдзекавалася з навязьваленага аб'яднальніка, а тэлебачаньне выдзеліла на гэты амаль што сатырычны сюжэт ажно тры хвіліны (што бывае вельмі рэдка).

Такім чынам, чарговы "кавалерыйскі наскок" Лукашэнкі на Маскву скончыўся правалам. Гэта, аднак, ні ў якім разе не азначае, што правалам скончацца і іншыя намаганьні "ўключыць Расею ў склад Беларусі". Вядома, восеньская актыўнасьць прэзідэнта тлумачыцца і чыста прагматычнымі прычынамі: наступленьнем ацяпляльнага сэзону і парламанцкіх выбараў. Безумоўна, Лукашэнку з унутрыпалітычнага пункту гледжаньня хацелася б ажыцьцявіць "інтэграцыю" шляхам рэфэрэндуму, у ідэале прызначыўшы яго на дзень парламанцкіх выбараў. Нашае грамадзтва зноў бы пераключылася з выбараў на рэфэрэндум, а Лукашэнка атрымаў бы чарговую перамогу.

Але ў Расеі нашага прэзідэнта пакуль што "абламалі". І тут варта прааналізаваць, чаму ж Расея пакуль не жадае аб'ядноўвацца з Беларусяй. Найбольш просталінейны і лагічны адказ — эканоміка: капіталістычная Расея нібыта няздольная сёньня "пераварыць" дзесяцімільённую краіну з сацыялістычнай формай уласнасьці. Але логіка — дрэнны аргумант у выпадку з Расеяй, дзяржавай, якую ніколі "умом не понять". Масква флегматычна церпіць на сваёй тэрыторыі і не такія "мядзьведжыя куткі" — у некаторых рэгіёнах Расеі рэформамі і ня пахне. А дзеля ідэалагічных і геапалітычных выгод Расея заўжды была гатовая пайсьці на любыя эканамічныя страты.




Ёсьць яшчэ даволі рамантычны аргумант: нібыта расейское кіраўніцтва баіцца Лукашэнкі як патэнцыйнага кандыдата на расейскі прастол. Аднак калі Рыгоравіч сам не пасьпее зразумець усю небясьпеку такой ідэі, яму растлумачаць простымі славянскімі словамі. Калі ж і гэта не падзейнічае, расейскім спэцслужбам, якія арганізоўвалі мецяжы і нават цэлыя войны (згадайце Прыднястроўе, Абхазію), будзе нескладана прыдумаць якую-небудзь аварыю самалёта.

Найбольш праўдападобнай, на маю думку, зьяўляецца вэрсія аб нежаданьні расейскага кіраўніцтва фарсіраваць інтэграцыйныя працэсы. "Беларуская карта" павінна зьявіцца ў самы адказны момант — падчас прэзідэнцкіх выбараў — і стаць самым казырным тузом. Пры гэтым Лукашэнку не пакінуць правоў на "аўтарства" ў гэтым сцэнары — будзе зроблена ўсё, каб ідэя аб'яднаньня дзьвюх дзяржаваў атаясамлівалася ў сьвядомасьці расейскіх выбаршчыкаў з імёнамі расейскіх кіраўнікоў — Ельцына або Чарнамырдзіна.

Такім чынам, дзякуючы абставінам незалежнасьць Беларусі атрымала невялікую перадышку. Нам, аднак, варта пазбавіцца ілюзій, нібыта нейкі добры расейскі правіцель пакіне нас у спакоі. Пры сучасным стане расейскай самасьвядомасьці любы наступны прэзідэнт Расеі будзе карыстацца ў той ці іншай ступені вялікадзяржаўніцкай ідэалогіяй. З "дэмакратычнай Масквы" выратаваньня чакаць не даводзіцца, трэба спадзявацца толькі на сябе.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Сяргей ДУБАВЕЦ

# Чэсная хлусьня

*Гумарэска*

Цэлы вечар пісаў пра палітыку, а ноччу прысьніў сон. Быццам у госьці да мяне інкогніта зайшоў сам прэзідэнт Лукашэнка. Толькі я з кухні ўглядзеў, як на двор заяжджае чорны "членавоз" у атачэньні дзесяці машынаў з мігалкамі, так адразу і зразумеў — да мяне. Зьбірай, кажу, жонка, на стол. Сюрпрыз будзе.

Зайшоў наш прэзідэнт у кватэру — такі просты, адразу відаць, што жыцьцё наша ведае не па чутках, — і кажа: "Што ж ты, Сярога, пра мяне гадасьці пішаш. Ужо й маёры мае пакрыўдзіліся. Абідна!" І пазірае так рашуча, што, бачу, бяз ста грамаў далейшае размовы ня будзе.

"Я, — адказваю, — таварыш прэзідэнт, очань вам благадаран за этат ваш вапрос. Але ж у мяне прафэсія такая — пісаць. Мне за гэта грошы плоцяць". "А хто табе, Сярога, плоціць?" — узяў госьць быка за рогі. "Людзі, — кажу, — плоцяць. Бо пішу тое, што думаю. А калі б пісаў тое, што нада, — плаціла б адміністрацыя прэзідэнта".

Пакруціў ён галавой, але за стол прысеў. Узялі мы па чарцы, і як бы паміж намі пацяплела. "Я, — кажу, — таварыш прэзідэнт, тожа народ наш знаю і люблю. Але, думаю, што кіраваць краінай як саўгасам няможна. А яшчэ я люблю пісаць і думку сваю даводзіць. А вось вы, таварыш, сваю працу ня любіце. Самі кажаце, што нічога вас у прэзідэнцтве не прывабляе".

"Ой, Сярога, — адказвае госьць, — не наступай на мазылі. Сам бачыш, улез я ў такую перадзелку, што ніякая перастройка не дакажа".

"Бачу, — кажу і зноў чаркі напаўняю. — Мне вас, Шура, нават шкада вельмі. Вы б хоць пінжак зьнялі. Душнавата тут у нас (а мы гэта на кухні сядзім)".

"Я, — кажа прэзідэнт, — табе, Сярога, очань благадаран. За пінжак. Але навошта ты мяне ўсё кусаеш? Я ж усё хачу, каб па-чэснаму..."

"Харошы, — кажу, — вы, Аляксандар, мужык. Але аднаго зразумець ня хочаце. — Гэта я трэцюю чарку кульнуў і язык у мяне развязаўся. — Што значыць: па-чэснаму? Пакуль мы з хлусьні ўсе ня выйдзем, то, ўсё, што будзем па-чэснаму рабіць, будзе хлусьня. Бо хлусьня — самое паветра, якое мы дыхаем. Няхай нехта думае, што мы з Саюза выходзім, ці з сацыялізму, ці з крызісу... А на самой справе мы з хлусьні ніяк выйсьці ня можам. Вось вы — чэсны, за гэта народ вас і выбраў. Але пакуль мы ўсе ў хлусьні, то вы толькі й робіце, што чэсна хлусіце".

"Ну, гэта ты, Сярога, перагнуў. Я, канечне, табе благадаран, але як гэта можна — чэсна падманваць?"

"Можна, — кажу, — Аляксандар Рыгоравіч. Казалі вы — лепей будзем жыць, а не жывем. Усё вам нешта мяшае. А што мяшае? Гэта, я вам скажу, каб яшчэ ў якой краіне людзі так верылі — пашукаць трэба. Далей. Казалі — заводы запушчу. А яшчэ Кебіч у вас на дэбатах запытаў: як запусьціце? Вы не адказалі. А ўрэшце і не запусьцілі. Казалі — вайна з карупцыяй. А каго пакаралі?.. Мову заціснулі. Я панімаю, што не нужон вам беларускі язык, але гэта ўжо другі вапрос. Нашто ж ціскаць? 90 працэнтаў эфіру — па-расейску, школы паперавадзілі назад... І яшчэ кажаце, што ніхто так, як вы, пра беларускую мову ня дбае. Хлусьня. Чэсная хлусьня. І ў вялікім, і ў малым. НАТу адно кажаце, Ельцыну другое..."

Памаўчалі мы. Трудна так памаўчалі. Закусілі. А я ўсё гавару ды гавару. На душы ў мяне накіпела...

"Можна, — кажу, — чэсна падманваць, калі ўсё жыцьцё перавернута дагары нагамі, калі ўсе прывучаныя, што белае — чорнае, тады самы чэсны чалавек так і кажа, што ногі — гэта галава.

Вось вы ўсё народ у Расею піхаеце. Будзем, кажаце, у любых формах злучацца... І людзі вераць. Харашо, так і нада, правільна, таварыш прэзідэнт. А што тут правільна?"

"Энэргарэсурсы", — сказаў прэзідэнт, адкусваючы скурку ад сала.

"На 10 гадоў, — працягваў я, зусім разышоўшыся. — А там што? Кроўнае брацтва? Гэта што, хто-небудзь кроў правяраў? Усе археолагі ў адзін голас кажуць, што беларусы і расейцы хоць і славяне, але ж розныя, бо аснова розная. У нас — балцкія плямены, а у расейцаў фінскія і цюркскія. І што калі ўжо па крыві, то нічуць не радней нам расейцы за палякаў, украінцаў і літоўцаў з латышамі. Што далей? Праваслаўе? Колькі працэнтаў у нас праваслаўных? Я ведаю, што найбольш — баптыстаў. Гэта афіцыйная статыстыка. А пра агульную гісторыю і казаць брыдка — сапраўды суцэльная хлусьня.

Эх, Шура! Я так хачу вам паверыць, але ня сьлепа паверыць, а ўсё праверыць. Правяраю па дакумантах — усё наадварот! Ладна, няхай кніжкі хлусяць. Узяў я сёлета і паехаў на тыдзень у Цьвярскую вобласьць — самы цэнтар Расеі. І тыдзень па вёсках вандраваў. Дык вось што я вам скажу. Куды вы народ піхаеце, Шура? Людзі вам вераць, але ж яны ня ведаюць, што там за жыцьцё. Хаты шэрыя, не шаляваныя, пад рубэройдам, ніхто не працуе, вёскі бяз вуліц, ані сьвінча нідзе, ані статку кароўскага, рэкі забітыя тапляком, адна гарэлка ў краме... Мужыкі мне кажуць: "В этом году наш колхоз ничего не сеял". Я кажу: "А чым вы тады займаецеся? Тэлевізар глядзіце?" "Да, — адказваюць, — но лучшее кино — это вино!" Мовы нашай не разумеюць... Ня дай Бог, скажу вам, нашай вёсцы такую долю! А гэта ж Цьвер, самая Расея, можна сказаць, твар краіны.

Шмат дзе я бываў у суседніх краінах. Ведаю і літоўскую вёску, і польскую. Дык там, нягледзячы на нашыя калгасы, усё падобнае да нашага — і людзі падобныя, і гаспадараньне, і псіхіка сялянаў. Прычым усё на наша добрае падобнае, а не на благое, як у Расеі. І, дарэчы, мову нашу паўсюль разумеюць. Куды ж вы нас піхаеце? У адсталасьць, у заняпад?..

І выходзіць, як ні хачу я вам паверыць, але абвяргаюць вас і гістарычныя дакуманты, і вясковы ўклад. Я таксама люблю Расею, Дастаеўскага люблю і Ганчарова. Але ж не з Дастаеўскім нам жыць, а з Жырыноўскім і з іхным народам прапашчым. Яшчэ й вяваць з усякімі чачэнцамі..."

Асалавеў мой госьць і сказаў: "Ну, люблю, люблю, хоць ты мяне страляй!" "І я, — кажу, — люблю. Бо столькі гадоў са школы ўбівалі, што родзіна — Масква, па радыё і па яшчыку. Людзі нічога толкам пра іншы сьвет і ня ведаюць. Столькі гадоў галаву паварочвалі толькі ў адзін бок. І вы цяпер тое ж робіце. Граніцы закрываеце. А гэта ж і ёсьць хлусьня. Чэсная хлусьня. Памятаеце, песьня была такая: "Шырака страна мая радная, многа в ней лесов полей і рек..." — і я засьпяваў. А Аляксандар Рыгоравіч ціхенька падхапіў: "І ніхто на сьвеце не умеет лучшэ нас сьмяяцца і любіць".

"Вось мы і сьмяёмся, — кажу. — А ўсе на сьвеце з нас сьмяюцца".

І тут раптам заплакаў прэзідэнт, так глыбака заплакаў, так безвыходна, што і ў мяне сьляза навярнулася. Што ні кажы, а ўжо другую пляшку мы неўпрыкмет закончылі. А тут раптам пралазіць да нас на кухню міністар абароны і кажа: "Аляксандар Рыгоравіч! Шар зьбілі. Амэрыканскі. Што рабіць?"

А прэзідэнт на мяне паглядзеў і кажа: "Што рабіць, Сярога?"

"Праўду кажыце, Аляксандар Рыгоравіч. Паспрабуйце з гэтай хвіліны кардынальна зьмяніць палітыку. Ні слова хлусьні — ні большай, ні меншай. Толькі праўду".

Ён паглядзеў на мяне доўгім мутным позіркам, пасураваў раптам і сказаў: "Нічога ты, Сярога, не разумееш. Як я магу праўду казаць па-чэснаму? Хто мне тады паверыць, што я прэзідэнт?" Павярнуўся ён да міністра абароны і кажа: "Паінфармуй грамадзкасьць, што шпіёнаў зьбілі". А тады зноў да мяне: "Наш народ, Сярога, да чэснасьці прывык, а не да праўды".

І тут раптам стала мне так праціўна, што сказаў я толькі: "Эх, Шура!.." І з гэтымі словамі прачнуўся. Павярнуў галаву — а на мяне жонка глядзіць. Уважліва так пазірае. Маўляў, якая там Шура? Бачу, калі праўду скажу — не паверыць. Прыйдзецца, значыць, па-чэснаму.

*Спорт*

# Дынама? Дынама?! Дынама!

**У 1/16 фінала Кубку УЕФА** выйшлі футбалісты менскага "Дынама", якія перамаглі дома ў роўнай нэрвовай барацьбе венскую "Аўстрыю" — 1:0. Гол на апошняй хвіліне гульні забіў пасьля выхаду адзін на адзін з варатаром Вольфартам Валянцін Бялькевіч. Нагадаем, што і ў Аўстрыі менчукі былі мацнейшымі — 2:1.

Іхнія аднаклубнікі з Кіева апынуліся ў цэнтры скандалу сусьветнага маштабу. Пасьля перамогі ў матчы Лігі чэмпіёнаў над афінскім "Панацінаікасам" на сваім полі — 1:0 — яны былі дыскваліфікаваныя кантрольна-дысцыплінарнай камісіяй УЕФА на 3 гады за спробу подкупу гішпанскага арбітра Антоніё Ніета. Кіяўляне катэгарычна адмаўляюць гэты факт. Яны падалі заяву ў пракуратуру Украіны і абвінавачваюць сваіх апанэнтаў у наўмыснай хлусьні. Год таму за падобны ўчынак было дыскваліфікаванае яшчэ адно "Дынама" — тбіліскае.

**Валгаградзкі "Ротар"** сэнсацыйна выбіў з турніру за Кубак УЕФА знакаміты ангельскі клуб "Манчэстар Юнайтэд", выстаяўшы ў Манчэстары супраць гаспадароў — 2:2 (першы матч — 0:0). Мюнхэнская "Баварыя" пасьля паразы дома (0:1) хвацка адгуляла ў Маскве, разьбіўшы Лакаматыў — 5:0. А "Лівэрпуль" захаваў на сваім полі перавагу, якую здабыў ва Ўладзікаўказе супраць "Спартака—Аланіі" — 0:0 (2:1).

**Ларыса Лук'яненка** з Менска зноў стала чэмпіёнкай сьвету па мастацкай гімнастыцы. На сусьветным першынстве, якое адбывалася ў Вене, яна стала лепшай у практыкаваньнях са скакалкаю, была другой пасьля выступаў са стужкаю і трэцяй у мнагабор'і, прайграўшы Марыі Пятровай з Баўгарыі і Кацярыне Серабранскай з Кіева толькі адну дзесятую бала. Яшчэ два бронзавыя мэдалі заваявалі беларускія дзяўчаты ў групавых практыкаваньнях.

А вось алімпійская надзея Беларусі Вольга Гантар была выключаная са зборнай каманды напярэдані чэмпінату сьвету. Галоўны трэнэр Галіна Крыленка абвінаваціла яе ў гультайстве і імкненьні разьмяняць вялікі спорт на забавы. Сама Гантар спасылаецца на немагчымасьць трэніравацца на поўную сілу з прычыны траўмы сьпіны. Спартовы штотыднёвік "Прессбол" у публікацыі "Выгоню из зала — пойдешь на панель" прыводзіць вэрсію бацькоў гімнасткі, з якой вынікае, што Крыленка некалькі разоў зьневажала Вольгу і нават уляпіла ёй поўху.

Яшчэ адна "гімнастычная" непрыемнасьць. У зале мастацкай гімнастыкі, ключы ад якой прэзідэнт Лукашэнка ўрачыста ўручыў Галіне Крыленка паўтара месяцы таму, узьнялася падлога пад гімнастычным дываном, а прыбіральня і душ зачыненыя, бо не працуе каналізацыя. Такі вось падарунак! Зрэшты, падарункам гэтую залу назваць нельга, бо належыць яна Ўпраўленьню справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Чэмпіянат Эўропы па валейболе сярод жаночых камандаў** праходзіць у Галандыі. Зборная Беларусі ў стартавым матчы абыграла суперніцаў з Польшчы — 3:1, а пасьля з такім жа лікам саступіла камандам Нямеччыны і Расеі. Але нашыя дзяўчаты маюць шанцы выйсьці ў другую фінальную групу, дзе будуць разыгрывацца 5—8 месцы, якія даюць права гуляць у фінальным турніры наступнага першынства кантынэнта.

**Як і раней, не шанцуе** хакеістам менскага клубу "Цівалі", якія выступаюць у чэмпіянаце МХЛ. Пасьля паразаў на пляцоўках супернікаў ад СКА (Санкт-Пецярбург) — 0:9, "Северсталі" (Чарапавец) — 4:6 і "Крышталю" (Электрасталь) — 0:7 — "Цівалі" замыкаюць турнірную табліцу, займаючы з адным ачком апошняе 14-е месца ў Заходняй канфэрэнцыі. Лідарамі сталі маскоўскія "Дынама" і "Спартак".

**Ёсьць зрухі** ў фінальным матчы за першынство сьвету па шахматах паміж Гары Каспаравым (Расея) і Вішванатанам Анандам (Індыя). У дзевятай партыі Ананд перамог белымі і выйшаў наперад — 5:4. "Нічыйнае" зацішша, якое панавала ў першых васьмі сустрэчах, цяпер саступіла месца шахматным бурам. "Паранены" Каспараў яшчэ больш небясьпечны для супернікаў. Ужо ў дзесятай партыі Гары бярэ рэванш, і цяпер псіхалагічная перавага на ягоным баку. Ён перажыў ужо няўдачу, а Ананда гэта яшчэ чакае. А пакуль — 5:5.

**Тэнісісты Расеі і ЗША** будуць змагацца з 1 па 3 сьнежня ў Маскве за самы ганаровы ў гэтым відзе спорту камандны трафэй — Кубак Дэвіса. Гэта стала вядома пасьля таго, як расейцы у зацятай барацьбе перамаглі каманду Нямеччыны — 3:2. Нягледзячы на тое, што ў складзе гасьцей выступалі пераможцы Ўімблдону Барыс Бэкер і Міхаэль Шціх і што пасьля першага дня гаспадары саступалі 0:2, Яўген Кафельнікаў, Андрэй Альхоўскі і Андрэй Часнакоў змаглі схіліць Фартуну на свой бок. Асабліва драматычна склаўся матч Часнакова і Шціха, які доўжыўся каля чатырох з паловай гадзін. Вынік пятага вырашальнага сэту — 14:12 на карысьць Часнакова. У той жа час тэнісісты ЗША, у складзе якіх выступалі лідары сусьветнага тэнісу Піт Сампрас і Андрэ Агасі, без асаблівых праблемаў разабраліся са швэдамі — 4:1.

**Самыя дарагія і папулярныя гонкі ў сьвеце** — чэмпіянат сьвету у класе "Формула-1". Чарговы этап у партугальскім горадзе Эштарыле выйграў шатландзец Дэвід Култхарт, які на сем сэкундаў апярэдзіў мінулагодняга чэмпіёна немца Міхаэля Шумахера. Праз 29 сэкундаў на фініш прыйшоў віцэ-чэмпіён ангелец Дэйман Хіл. У агульным заліку наперадзе Шумахер, за ім Хіл і Култхарт.

**Зорка эўрапейскай лёгкай атлетыкі** чэмпіён кантынэнта 1994г. у бегу на 400 м з бар'ерамі Алег Твердахлеб ніколі болей ня выйдзе на бегавую дарожку. 25-гадовы спартсмэн раптоўна памёр на сваёй дачы, атрымаўшы моцны разрад электрычнага току. Твердахлеб быў шостым на алімпіядзе ў Барсэлоне і чэмпіянаце сьвету—93 у Штутгарце. У Гётэборгу ён быў дыскваліфікаваны за няправільнае праходжаньне бар'ераў.

**Сусьветны рэкорд** устанавіў аўстраліец Шэм Келі на чэмпіянаце сьвету па веласпорце на трэку ў Калумбіі. 1 км з месца ён праехаў за 1.00,613. Сярэдняя хуткасьць склала каля 60 км/гадзіну.

**Сямён ПЛОЦ**

## Заморскія бацькі беларускіх дзетак

**Пяцёра выхаванцаў Віцебскага дзіцячага дома знайшлі сабе новых бацькоў у ЗША і Нямеччыне.**

Цяпер ідзе афармленьне яшчэ некалькіх дзяцей на ўсынаўленьне ў Злучаныя Штаты і Канаду. *СІМ*

## Сьцеражыся ровара

**У Віцебску здарыўся незвычайны трагічны выпадак.**

Як сьведчыць міліцэйская зводка, рабочы ВА "Маналіт", які рухаўся на веласіпедзе па Маскоўскім праспэкце, наехаў на 60-гадовую кабету. На наступны дзень жанчына памерла ў бальніцы ад атрыманых цялесных пашкоджаньняў. *СІМ*

## Сямейная трагедыя

**Жыхар райцэнтру Астравец Гарадзенскай вобласьці Н.Арташэвіч на добрым падпітку пачаў высьвятляць адносіны з жонкай кулакамі.**

Ня вытрымаўшы такога абыходжаньня каханага, жонка дала яму качаргой па галаве — муж памёр на месцы. **В.В.**

## Прэзідэнцкая шчодрасьць

**Нядаўна шклоўская футбольная каманда "Спартак" пачала выходзіць на поле ў новай спартовай форме, падоранай прэзідэнтам.**

Апроч таго, А.Лукашэнка шчодра выдзеліў землякам 20 футбольных мячоў. **Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

**Згубленую ўрачэбную пячатку Сінявіча П.А. лічыць несапраўднай**



## Субота 7 кастрычніка

### Беларускае тэлебачаньне

8.00 Эканамікст
8.10 Люстэрка Сі-Эн-Эн
8.25 Ф/к
9.05 Спортпляцоўка
9.30 Усё пра ўсё
9.50 Тэлефэстываль
10.40 Здароўе
11.20 Бонтон
11.50 Закон і ты
12.40 Дыялогі пра спорт
13.00, 15.20 „Канцэрт дружбы"
14.00 Ручны мяч. Кубак эўрапейскіх чэмпіёнаў. 1/16 фіналу. СКА (Менск) — ВК-46 (Фінляндыя)
16.20 Шматгалосьсе
16.55 Радавод
17.15 Галерэя
17.50 Футбол. Чэмпіянат Эўропы. Беларусь — Чэхія
19.50 Фінансавы час
20.05 Міжнародныя спартовыя навіны
20.35 Калыханка
21.00 Навіны
21.45 „Бравыя хлопцы", м/ф
23.10 Пад купалам Сусьвету
23.15 Відзьма-нявідзьма

### ОРТ

7.00, 8.10 Пад'ём!
8.00, 14.00, 17.00, 23.50 Навіны
9.30 Раным-рана
10.00 Ранішняя пошта
10.35 Смак
10.50 На ўсе сто
12.00 Жывапіс: вялікія імёны
12.30 Бамонд
12.50 „Вечары на хутары ля Дэіканькі", м/ф
14.15 Аўтамабіль і мы
14.50 У сьвеце жывёлаў
15.30 Акно ў Эўропу
16.00 Неяк раз
16.10 Шчасьлівы выпадак
17.20 Мультфільм
17.55 „Незакончаная п'еса для мэханічнага піяніна", м/ф
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час
20.45 „Рэйлі — кароль шпіёнаў"
21.45 Брэйн-рынг
22.35 „Паляўнічы", мульт.
22.40 „Базавы інстынкт", м/ф

### Канал "Расея"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 Зоркі гавораць
7.30 „Ваўкалакія, або Краіна пярэваратняў"
7.45 Компас „Роста"
8.00 „Адысэя", т/с
8.30 Залаты ключык
8.50 Этыкетка
9.00 Парламанцкі тыдзень
9.45 Рэтра-шлягер
10.15 Як жыць будзем?
11.00 Пілігрым
11.45 Хто мы?
12.30 Кінаафіша
12.45 Гарачая дзясятка
13.20 De facto
13.35 „Мэгрэ і злодзей", ч. 1
14.30 Ведзі
15.00 Музыка ўсіх пакаленьняў
15.30 Шостае пачуцьце
16.00 Зоркі сусьветнага экрану
16.30 Біянале
17.20 „Вучні чарадзея", спэкт.
18.50 Кліп-антракт
19.25 Шахматы
19.40 „Мужчыны", м/ф
20.55 Кліп-антракт
21.05 Зусім сакрэтна
22.30 Рака часу
22.35 Аўтаміг
22.40 Праграма „А"

### Санкт-Пецярбург

6.30 Хрыстос ва ўсім сьвеце
7.00 Добрае раніцы
8.00 Жыўцом...
9.05 Стыль жыцьця
9.15 „Мой добры тата", м/ф
10.20 Тэледоктар
10.40 Гістарычны альманах
11.10 „Рандэву з зоркай"
11.40 „Прывалаўскія мільёны", м/ф
14.35 ТСТ
14.50 Залаты ключ
15.15 Казка за казкай
15.40 Храм
16.10 Мы і банк
16.55 Хакей
18.15 Вялікі фэстываль
18.30, 22.30 Інфарм-TV
18.50 „Дні любові", м/ф
20.30 Бокс-шоў
21.30 Ня хочаш — не глядзі
22.50 Экспрэс-кіно
23.05 „Забіць няпроста", м/ф

### IV канал, НТВ

7.00 Вяртаньне да Бога
7.30 Мультфільм
8.10 „Гішпанія з птушынага палёту", ф. 1
8.55 Домаўладальнік
9.10 Маленькі канцэрт
9.25 Мастак
9.40 Дом моды
10.00 Касьмічная тэлеантэна
10.15 Мэдыцына для вас
10.30, 13.30, 15.00, 16.45 Навіны
10.35 Пэдагогіка для ўсіх
11.20 Газэтныя навіны
11.30 Час „Ч"
12.00, 12.45 З паўслова
12.15 Шчыра Ваш
13.00 Гасьцёўня Сямейнага каналу
13.20 Інфармацыя ДАІ Расеі
13.35 Пэнсіён
14.05 Крок з кола
15.05 Эканамічны агляд
15.50 Скарбы пірамідаў
17.00 Мультфільмы
18.00, 21.00 „Сёньня"
18.35 Дог-шоў
19.05 „Вішнеўскі сад"
19.10 „Пілот"
20.00 Надоечы
20.45 Лялькі
21.35 „Замужам за мафіяй", м/ф
23.25 Трэцяе вока

### 8 канал

15.00 „Прынцэса з Месяца", м/ф
17.00 Хрысьціянская праграма
17.30 „Саламея"
18.30 Клуб „Эдэм"
19.30 „Горац"
20.30 На-лі-вай!
21.00 „Дэтэктыў на паўстаўкі"
21.50 Сьвет забаваў
22.15 „Сірэны"
23.15 Foxy music

## Нядзеля 8 кастрычніка

### Беларускае тэлебачаньне

8.00 Д/ф
8.55 Навіны-ТВ
9.10 Урокі Н.Наважылавай
9.40 Тэлебом
10.00 MTV
10.30 Ручны мяч. Кубак эўрапейскіх чэмпіёнаў. 1/16 фіналу. „Палітэхнік" (Менск) — „Касана" (Італія)
11.50 Тураб'ектыў
12.10 Арсэнал
12.40 Усё нармальна, мама!
13.10 Мультфільм
13.25 Аўта-парк
13.40 Сэкрэтэр
14.10 Архіварыюс
15.00 Сусьвет
15.50 Пераможца
16.10 Ківач
17.10 Тэатар у крэсьле
17.50 Стыль
18.10 „Экспэдыцыя"
18.45 „Фантазія", ф/к
19.10 Абібок
19.40 Калыханка
20.00 Рэзананс
21.05 Карамболь
21.45 „Скралі сьцягно Юпітэра", м/ф
23.35 Пад купалам Сусьвету

### ОРТ

7.00, 8.00 Пад'ём!
9.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны
9.30 Пакуль усе дома
10.00 Ранішняя зорка
10.45 З першых рук
11.00 Служу Расеі!
11.30 Іграй, гармонік!
12.00 Рэйтынг вёскі Лукошкіна
12.40 „Мой сябра конь", т/с
13.10 Сьмехапанарама
14.10 Вакзал мары
15.10 Клуб падарожнікаў
16.05 Мультфеервэрк
17.15 Футбольны агляд
17.45 Песьня-95
18.35 Мультфільм
18.55 „Двайны ўдар", м/ф
21.00 Нядзеля
22.00 „Рэйлі — кароль шпіёнаў"
23.10 Каханьне з першага погляду

### Канал "Расея"

7.00, 10.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 Зоркі гавораць
7.30 Першы дубль
7.45 Церамок
8.00 „Адысэя"
8.30 У сьвеце аўта-і матаспорту
9.00 Добрае раніцы
9.30 Аты-баты...
10.15 Расейскае лата
11.00 Кансалідацыя
11.05 У сьвеце жывёлаў
12.00 Кліп-антракт
12.05 Футбол бяз межаў
12.50 Сігнальны экзэмпляр
13.20 Ня вырубіць...
13.35 „Мэгрэ і злодзей", ч. 2
14.25 Кніжная лаўка
14.55 Шахматы
15.15 „На зямлі, мне блізкай і каханай..."
15.40 Наш сад
16.10 Тры асілка
17.00 Чароўны сьвет Дыснэя
17.55 Ф.Стар
18.25 У Ксюшы
19.25 „Нью-Ёркскія гісторыі", м/ф
21.40 Скрынка передачаў
22.30 Рака часу
22.35 Аўтаміг
22.40 Ціхі дом

### Санкт-Пецярбург

6.00 Ваш дзень
6.30 Гаючае слова
7.00 Добрае раніцы
7.55 Жыўцом...
9.05 Стыль жыцьця
9.20 „Дні любові", м/ф
11.00 Нядзельны лабірынт
12.10 Валейбол
13.15 Вялікія жарсьці
13.30 Класіка-5
14.30 Слова дэпутатам
15.00 „Легенда і праўда пра Бурштынавы пакой", д/ф
15.35 Мультфільм
15.50 Студыя „Уяві"
16.05 Зэбра
16.55 Баскетбол
17.35 Д/ф
18.30, 21.45 Інфарм-TV
18.50 „Сны", м/ф
20.10 На біс
20.40 Анонс
20.55 Міс „Паўночная пальміра"
22.50 Адам і Эва+
23.20 Валейбол

### IV канал, НТВ

7.00 Дотык
8.10 АБВГДэйка
8.30 „Дзеці Падмаскоўя"
8.45 Ноў-хаў
9.15, 13.10, 13.50, 14.50, 14.40 Гасьцёўня Сямейнага каналу
9.35 Сем Я
9.50 Бонтон
10.10 „Век цяперашні і век мінулы"
10.25 Кулінарнае дасье
10.30, 13.30, 16.45 Навіны
10.55 Пэнсіён
11.00 Апоўдні
12.45 З паўслова
13.00 Графаман
13.45 Гумарыста выклікалі?
14.10 Дойліды культуры
15.00 Запрашаем на работу
15.55 Дамавік
16.15 Экспрэс-дызайн
17.00 „Паліцэйскі Кэтс і ягоны сабака"
17.30 „Сто да аднаго"
18.00 „Сёньня"
18.30 „Крымінальная Расея, сучасныя кронікі", ф. 1
19.00 „Паляўнічы"
20.00 Вынікі
21.10 „Фані і Аляксандар", м/ф
0.20 Анонс тыдня

### 8 канал

15.00 „Музычная фантазія", м/ф
17.30 Сёньня з Марлен Хікі
17.55 Вашая рэклама
18.00 „Сакрэтная місія"
18.30 Мультфільм
19.00 „Горац"
20.30 „На варце"
21.00 „Дэтэктыў на паўстаўкі"
21.45 Тэлемэню
22.00 „Каханьне жыве", м/ф
23.30 Red wave

Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 27.09.95 (24.00) Надрукавана ў Аршанскай друкарні (г.Ворша, вул.Замкавая, 3). © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая. Наклад 93 000